**Брылеўская сельская бібліятэка**
**Брылеўскі сельскі Дом культуры**






# "Як песня народа - неўміручы наш Колас!.."

***Сцэнарый***
***літаратурна-музычнай кампазіцыі***
***да 125-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа***






**Брылі**
**2007**



*Гучыць песня І.Лучанка на словы Я.Коласа “Мой родны кут” (спачатку гучна, потым цішэй).*

***1 вядучы** (на фоне музыкі):* Якуб Колас!.. У літаратурным псеўданіме Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча -- народнага паэта Беларусі Якуба Коласа -- шмат сэнсу і чалавечага цяпла. “Колас -- гэта хлеб, гэта само жыццё”,-- пісаў Раман Сабаленка. Гэтым псеўданімам яшчэ на пачатку сваёй творчай дарогі малады паэт падкрэсліў, што жыццём сваім і творчасцю заўсёды будзе цесна звязаны з народам, з роднай зямлёй, што з жыцця народа, як з найглыбейшай крыніцы, будзе чэрпаць думкі і надзеі, тэмы і вобразы.

***2 вядучы:*** Сусветна вядомы мастак слова, народны паэт Беларусі Якуб Колас нарадзіўся 3 лістапада (па старому стылю 22 кастрычніка) 1882 года ў сям’і лесніка непадалёк ад вёскі Мікалаеўшчына, у засценку Акіньчыцы, які зараз уваходзіць у тэрыторыю горада Стоўбцы.

Уявім, што дарога вядзе нас туды, на радзіму паэта...

Стоўбцы праміна. Вядзе ў далячынь
Гасцінец, у вербы адзеты.
І восць, куды позіркам толькі не кінь,
Прасторы -- радзіма паэта.
Удалечы -- шапкай пад воблакі -- дуб,
І кропкай -- каршун над палямі,
А я ледзь прыкметнаю сцежкай іду,
Кранаючы жыта рукамі...
І пальцы тут глебу міжволі ўзялі ---
Такая зямля навакола!..
Нездарма ж на гэтай цудоўнай зямлі
Узрос найвялікшы наш Колас!

(Кастусь Цвірка “На радзіме паэта”).

*У выкананні Міколы Яцкова гучыць песня*
*“Якуба Коласа радзіма”*
*(словы Яўгена Хвалея, музыка Міколы Яцкова).*

***2 вядучы:*** Куточак памяці жывой,
Нібы святыню, помніць буду.
Ці не знайду я пад страхой
Старую Костусеву вуду?..
А можа, там ляжыць яшчэ,
Ля пуні, бацькава папруга?
А Нёман-бацька ўдаль цячэ,
Дзе сінеч неба, водар луга.
Чытаю “Новую зямлю”:
“Дырэктар”,”Костусь” і “Начаткі”...
Здаецца, ў хату крок ступлю --
Запахнуць здорам там аладкі.
Запахне дроў салодкі дым,
І “шаляніца” скокне з печы...
Нібы я з Коласам самім
Прыйшоў на першую сустрэчу.
(Міхаіл Шахавец. “Акіньчыцы”).

***1 вядучы:*** Сям’я лесніка па загаду пана вымушана была часта пераязжаць: Акіньчыцы, Ласток, Альбуць... Рос ён змалку ўражлівым, цікаўным, дапытлілівым хлопчыкам з паэтычнай душой.

***2 вядучы:*** Любіў маленькі Косцік легчы на спіну, узірацца ў нябесны блакіт... Не раз ён любаваўся, як буслы кружыліся над лесам і сенажаццю. Яшчэ цікавей было наглядаць, як вучыліся лятаць бусляняты. “А чаму я не магу навучыцца лятаць?” -- падумаў Костусь. Надзеў стары матчын каптан, залез на хлевушок  і -- скакель са страхі. Так рабіў некалькі разоў, але нічога не выйшла: ён падаў у крапіву, апякаў рукі і ногі...

***1 вядучы:*** Дзядзька Антось, як даведаўся, толькі галавой паківаў і сказаў:

-- Ну, мой хлопча, у каго ты такі ўвішны ўдаўся?.. Гэта ж трэба прыдумаць! Ай-яй, чалавек, на галаве шапка!... То ён пытае, чаму хмары плывуць па небе, то слухае, як спяваюць кветкі. А тут птушкай захацеў стаць. Паглядзім, кім ужо ты будзеш...”

(Урывак з аповесці Сцяпана Александровіча
“На шырокі прастор”).

***2 вядучы:*** Дзіцячыя і юнацкія гады Якуба Коласа прайшлі ў Альбуці...

Альбуць!
Старых дубоў
Зялёная падкова,
Пазалацелы луг,
Крынічкі срэбны звон...
Альбуць!
Як сэрцу шмат
Гаворыць гэта слова,
І гэты цёмны бор,
І неба сіні схон...

(Алесь Звонак. “Альбуць”).

*У выкананні Мікалая Яцкова гучыць песня*
*“На беразе тым”*
*(словы Сяргея Законнікава,*
*музыка Міколы Яцкова).*

***2 вядучы:*** Свой першы верш Якуб Колас напісаў, калі было яму 12 гадоў. Напісаў на роднай беларускай мове, і назва ў верша была “Вясна”. На жаль, ён не захаваўся, але Якуб Колас добра запомніў, што напісаў ён свой першы верш пад ураджаннем прыгажосці абуджанай вясной прыроды і песні жаўранка, якая кранула тады Костуся да слёз...

***1 вядучы:*** Верш гэты ён прачытаў свайму бацьку. “Бацька паслухаў мяне ўважліва, -- успамінаў Якуб Колас, -- потым запытаў, ці праўда, што гэта напісаў я, і даў рубель гасцінцу...”

*(Дэманструецца царскі рубель).*

***2 вядучы:*** Гэта быў пачатак творчасці. І было вялікае жыццё -- разам з народам, праз віхур рэвалюцыі, войнаў, нацыянальнага адраджэння. Немагчыма пералічыць усё зробленае Якубам Коласам для развіцця і ўзбагачэня беларускай літаратуры, культуры, навукі. Ён шчыра клапаціўся аб тым, каб не гублялі беларусы беларускасці.

***1 вядучы:*** Цёплыя словы любові, зачараванасці роднай беларускай мовай выказаў ён радкамі сваіх таленавітых вершаў:

Слова -- радасць, слова -- чары.
Вобраз вечна юных вёсен,
Ёсць ты ўсюды: ў сонцы, ў хмары,
Ты глядзіш праз неба просінь,
Лашчыш слух мой, слова-ззянне,
Атуляеш сэрца ласкай,
Ноч і вечар, дзень, світанне
Абняло ты, слова-краска.

(Якуб Колас. “Слова”).

***2 вядучы***: Якуб Колас адгукаўся на ўсе падзеі жыцця Беларусі, савецкай краіны. Прызыўна, горача гучала Коласава слова ў гады Вялікай Айчыннай вайны... *(гучыць мелодыя песні А.Аляксандрава “Свяшчэнная вайна”).*

З самага пачатку Колас верыў у перамогу, верыў, што знявечаная, параненая ворагамі родная зямля загоіць раны:

Я ведаю: загояцца ўсе раны,
З пажарышч край паўстане, расцвіце
Ва ўсёй сваёй красе і паўнаце!

*У выкананні Мікалая Яцкова гучыць песня*
*“Чаканне”*
*( словы Кастуся Жука, музыка Міколы Яцкова).*

***2 вядучы:*** У пасляваенны час Якуб Колас, заняты плённай творчай працай, не толькі з гонарам выконваў абавязкі віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР, але і актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю. Шмат увагі ўдзяляў дзецям, моладзі, маладым літаратарам.

***1 вядучы:*** І ад імя не аднаго пакалення творчай моладзі выказаў шчырую ўдзячнасць выдатнаму песняру і настаўніку паэт Эдуард Валасевіч у вершы “Якубу Коласу”:

Мы вылятралі з-пад твайго крыла,
Як птушаняты, у палёт свой першы.
І праз гады нас вабіла, вяла
Пявучая і поўная святла
Паэзія і праўда тваіх вершаў.

Няхай нам тых не дасягнуць высот,
Дзе ты лунаў, нібы арол свабодны,
Ты навучыў нас, як любіць народ,
Як з ім ісці плячо ў плячо ўпярод
І як адданым быць краіне роднай!

***2 вядучы:*** Як вялікае агульнанароднае гора была ўспрынята смерць Якуба Коласа. Ён памёр 13 жніўня 1956 года. Было жніво... Смерць зрэзала гэты найдаражэйшы Колас роднае зямлі. Уся Беларусь развітвалася з любімым пісьменнікам.

*(Гучыць мелодыя песні “Будзе навальніца”).*

***1 вядучы:*** Гора падказала скрушныя словы развітання:

Над Нёманам схіліліся рабіны,
Маўчаць над Сожам пушчы і сады.
Мой родны кут, якога сына,

Якую песню страціў ты!..
Маўчаць палі у кроплях буйных рос,
Бары маўчаць, а сэрца плача ўголас,
Мой родны кут, упаў буйнейшы колас,
Што на тваёй зямлі узрос...

Так пісаў паэт Сяргей Грахоўскі ў вершы "Песня будзе жыць",

***2 вядучы:*** Пайшоў пясняр, а песня засталася...

***1 вядучы:*** Памёр паэт -- а песня будзе жыць!..

***2 вядучы:*** "Кнігі Коласа нам і калыскай, і школай былі", - гэтыя словы паэта Пімена Панчанкі паўтараюць і будуць паўтараць з цеплынёй і ўдзячнасцю новыя пакаленні.

***1 вядучы:*** Таму што заўсёды будзе патрэбна багатая і таленавітая спадчына Якуба Коласа: яго славутыя паэмы "Новая зямля", "Сымон-музыка", шматлікія вершы, апавяданні, яго "Палеская трылогія", драматургія, публіцыстыка, вершы для дзяцей.

***2 вядучы:*** І вобраз дзядзькі Якуба заўсёды будзе натхняць беларускіх паэтаў...

*У выкананні Мікалая Яцкова гучыць песня*
*"Па Нёмане на плыце"*
*(словы Эдуарда Акуліна, музыка Міколы Яцкова).*

***2 вядучы***: Неўміручая спадчына Коласа!
***1 вядучы:*** Неўміручае слова Коласа!
***2 вядучы:*** Неўміручая слава Коласа!
***1 вядучы:*** "Як песня народа --
***Разам***: Неўміручы наш Колас!

*( Гучыць мелодыя песні "Мой родны кут" ).*

К а н е ц.

# "Якуба Коласа радзіма"

На берагі прыду крутыя,
Дзе хвалі Нёмна залатыя
Сплываюць спеўнымі радкамі,
З дубамі шэпчуць, чаратамі.
Яны -- узнёслыя, як неба,
Яны -- ў зямным акрайцы хлеба,
У звоне вечнае крыніцы,
З якой мне піць і не напіцца.

П р ы п е ў : Якуба Коласа радзіма --
Край мой жытнёвы, край адзіны.
Над Нёмнам золак салаўіны
І адвячорак мой бусліны.

Якуба Коласа радзіма --
Ты васільковымі вачыма
Глядзіш у неба Белай Русі,
З табой навекі застаюся.

Альбуць, Высокі Бераг, Смольня
Душу саборна мне замоляць.
Палёў, лугоў званкі-званочкі
Пакажуць шлях сюды і ўночы.
Каб я ніколі не зблудзіўся,
Зямлёй паэта прычасціўся:
"Мой родны кут! Як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!"

П р ы п е ў .

# Якуба Коласа радзіма

Словы Яўгена Хвалея

Музыка Міколы Яцкова
























# "На беразе тым"

На беразе тым, што заўсёды мне сніцца,
Куды з ціхім жалем гляджу праз гады,
Я сеў на замшэлы валун ля крыніцы,
Паўнюткай, як вока, жывое вады.

П р ы п е ў : І сонца, як мама, цалуе ў макушку,
І вецер, як тата, кудлачыць віхры.
А я моўчкі слухаю вешчую птушку --
Кувае зязюля ў далёкім бары.

Нічога яшчэ не набыў і не страціў,
Абмацваюць далеч і позірк, і слых.
А ў свеце, нібы перад святам у хаце,
Так чыста-ўрачыста, што стойвае дых.

П р ы п е ў : І сонца, як мама, цалуе ў макушку,
І вецер, як тата, кудлачыць віхры.
А я моўчкі слухаю вешчую птушку --
Кувае зязюля ў далёкім бары.

Над берагам тым, што трава спавівае,
Аблокі айчыны у вечнасць ляцяць.
Кувае зязюля мая баравая --
Заведзены Богам гадзіннік жыцця.

П р ы п е ў : І сонца, як мама, цалуе ў макушку,
І вецер, як тата, кудлачыць віхры.
А я моўчкі слухаю вешчую птушку --
Кувае зязюля ў далёкім бары.

# На беразе тым

Словы Сяргея Законнікава

Музыка Міколы Яцкова

**Пявуча**

*Am* *Em*

На бе-ра-зе тым, што заў-сё - ды мне сніц - ца,

5 *Dm* *E7* *Am* *E7*

ку - ды з ці-хім жа-лем гля-джу праз га - ды, я

10 *Am* *F* *G*

сеў на зам - шэ - лы ва-лун ля кры - ні - цы, паў - нют - кай, як

15 *C* *G* *C* *Am*

во - ка, жы - во - е ва - ды. І сон - ца, як ма-ма, ца - лу - е ў ма

21 *Dm* *G* *C*

куш - ку, і ве - цер, як та - та, куд - ла - чыць віх - ры, а я моў-чкі

27 *Am*

слу - ха - ю ве - шчу - ю птуш - ку, ку -

30 *F* *C* *Dm* *G* *C*

ва - е зя - зю - ля ў да - лё - кім ба - ры.

# "Чаканне"

Не з-пад Малева ці Каханава,
А з далёкае стараны
Дзеці Мар'іны і Іванавы
Не вяртаюцца з той вайны.
Іх чакаюць старыя досвіткам
І ссутоненаю парой:
І свавольца, што звацць Хвядосікам,
І паважнага, што -- Кузьмой.

П р ы п е ў : Боль у сэрцах,
Боль у сэрцах не супакоены
Раны горычнае скразной...
А ці ўчуюць,
А ці ўчуюць крык сэрцаў зболеных
Тыя, скошаныя вайной.

Зумкі постук галінкі ўчуецца,
Дзынькнуць зманліва скразнякі --
Два да шыбіны твары туляцца:
"Мо каторы прыйшоў-такі?.."
Ўсё чакаюць старыя досвіткам
І ссутоненаю парой:
І свавольца, што звацць Хвядосікам,
І паважнага, што -- Кузьмой.

П р ы п е ў : Боль у сэрцах,
Боль у сэрцах не супакоены
Раны горычнае скразной...
А ці ўчуюць,
А ці ўчуюць крык сэрцаў зболеных
Тыя, скошаныя вайной.

# Чаканне

Словы Кастуся Жука

Музыка Міколы Яцкова

**Tempo di valse**

*Am* *A7*

Не з-пад Ма-ле-ва ці Ка - ха-на-ва, а з да -лё-ка-е ста - ра-

8 *Dm* *E7* *Am* *Dm*

ны дзе-ці Мар' і-ны і І - ва-на-вы не вяр - та-юц-ца з той вай-

16 *E7* *Am* *Em* *F*

ны. Іх ча - ка-юць ста-ры - я до-світ- кам і ссу - то-не-на - ю па-

24 *A7* *Dm* *Am* *Dm*

рой: і сва-воль-ца,што звацць Хвя - до-сі-кам, і па-важ-на-га, што Кузь

32 *E7* *Am* *Dm*

мой. Боль у сэр - цах, боль у сэр - цах не су-па-ко-е-ны_

40 *E7* *Am*

ра - ны го-рыч-на - е скраз- ной,

49 *Am* *Dm*

а ці ўчу - юць, а ці ўчу - юць крык сэр-цаў збо-ле-ных

57 *Am* *E7* *Am*

ты - я, ско-ша-ны - я вай-ной.

# "Па Нёмане на плыце"

Чэрвень. Чэзлае сонца.
Цень ад вясла ў вадзе...
Шлях -- як жыццё бясконцы
па Нёмане на плыце.

Ад звіслага вуса Усы --
паўз Прыстаньку, дзе калісь
дзядзька Якуб беларусаў
вучыў, як патрэбна жыць...

-- Пад бел-чырван-белым сцягам
куды плывяце, хлапцы?
-- З грэкаў плывём у варагі...
-- Напраўду? Ай, малайцы!..



# Па Нёмане на плыце

Словы Эдуарда Акуліна

Музыка Міколы Яцкова

**Сонечна** ♩ = 72

C Dm G C

Чэр - вень. Чэз-ла-е сон - ца. Цень ад вяс-ла ў ва - дзе.

5 Am Dm G C F

Шлях, як жыц-цё бяс - кон цы па Нё-ма-не на плы - це. Ад звіс-ла-га ву - са

10 C F C E♭

У - сы, паўзПрыс-тань - ку, дзе ка - лісь дзядзь-ка Я - куб бе-ла-

14 C Cm D B

ру - саў ву - чыў, як па-трэб - на жыць. "Пад бел - чыр-ван-бе - лым

18 Dm E♭

сця - гам ку - ды плы-вя - це, хлап - цы? "З грэ - каў плы-вём у ва-

22 B F B

ра - гі!.." "На - праў- ду? Ай, ма - лай - цы!"

# Татаў рубель...








# Свята




**4 лістапада**
**у Брылеўскай**
**бібліятэцы**

**адбудзецца**
**літаратурна-музычная вечарына**
**"Як песня народа -**
**неўміручы наш Колас!.."**

**Да 125-годдзя**
**з дня нараджэння**
**Якуба КОЛАСА**

**Пачатак - 12.00.**



*Ала і Мікола Яцковы.*

*- Вось ён - першы ганарар паэта!*




*Тэхнічнае забяспячэнне -- Юлія Яцкова.*







*Літаратурна-мастацкае выданне*

# “Як песня народа -- неўміручы наш Колас!..”

**Сцэнарый літаратурна-музычнай кампазіцыі**
**да 125-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа.**

***Рэдактар -- А.М.Яцкова.***

***Выкарыстаны матэрыялы часопіса***
***“Бібліятэка прапануе” № 3, 2002 г.***

Выдавец і паліграфічнае выкананне




*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
brylibelarus@gmail.com

